# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 4 (256) | ГОД VI | БЕЛАСТОК, 22 СТУДЗЕНЯ 1961 ГОДА | ЦАНА 60 ГР.


## 300 ГОД

У рамках урачыстасцей, звязаных з Тысячагоддзем нашай дзяржавы, у гэтым годзе шырока адзначаем 300-годдзе польскага друку.

300 год таму назад, 3 студзеня 1961 г. вышла першая польская газета «Мэркурыуш польскі». Ад гэтага дня пачынаецца гісторыя польскага друку.

Гісторыя гэта вельмі багата. Пашырэннем ведаў аб ёй у шырокія масы і будзе прызначаны гэты юбілейны год.

У цэлай краіне правядзецца шэраг мерапрыемстваў, якія падвядуць вынікі бага-


TRYBUNA

Do Robotników, Żołnierzy i Włościan!

Першая старонка «Трыбуны», якая выдавалася ў Петраградзе ў 1917 г.

тым традыцыям польскага друку. Зразумела, прагрэсіўных традыцый, якімі ганарыцца ўвесь наш сённяшні друк.

У гэтых урачыстасцях актыўны ўдзел прыме таксама грамадскасць Беласточчыны. Ужо паўстаў ваяводскі камітэт святкавання «300-годдзя», які ўзначаліў першы сакратар ВК ПАРП А. Лашэвіч. Намечана арганізаваць шэраг мерапрыемстваў, у якіх адводзіцца ганаровае месца традыцыям беластоцкага друку. А імі таксама маем права ганарыцца.

Тут жа ў Беластоку, у час студзенскага паўстання друкавалася «Мужыцкая праўда», а ў час дзейнасці Тымчасовага Рэвалюцыйнага камітэта Польшчы выходзіў «Чырвоны гонец». Падчас акупацыі на Беласточчыне выходзіць шэраг партызанскіх газет. Урэшце ў гэтым годзе спаўняецца 10-ая гадавіна «Беластоцкай газеты» і пятая — «Нівы».

У сувязі з гэтым трэба, каб і гурткі нашага Таварыства актыўна ўключыліся ў святкаванне «300-годдзя польскага друку» і апрацавалі канкрэтныя мерапрыемствы. Гэта сама датычыць і нашых школ.

Адны як і другія павінны кожнае юбілейнае мерапрыемства выкарыстаць дзеля папулярызацыі роднага часопіса і здабыцця для «Нівы» новых чытачоў. Гэта ганаровае заданне для кожнага члена і сімпатыка нашага Таварыства.

Значыць, апрача святкавання, давайце возьмемся за канкрэтную працу, пашырэнне колькасці чытачоў «Нівы».

Гэтым найлепш адзначым наш супольны юбілей.

Беларускае чытальніцтва

## АПТЫМІСТЫЧНЫ РЭМАНЕНТ

Справа папулярызацыі беларускай кніжкі здаўна хвалюе наш актыў. Беларуская літаратура ў масавых партыях паявілася на польскім кніжным рынку каля 1952 года. Цяпер 59 вясковых публічных бібліятэк мае літаратуру на роднай мове агульным лікам у звыш 6.200 экз. Значыць, на кожную бібліятэку прыпадае ў сярэднім па 105 кніжак. Праўда, лічба невялікая, але трэба тут ведаць, што перш за ўсё былі закуплены творы класікаў — Купалы, Коласа, Крапівы, Багдановіча, Чорнага, Бядулі і інш. — найчасцей у выглядзе вялікіх шматтомных зборнікаў.

Наўбольш шпаркае пашырэнне беларускага чытальніцтва прыпадае на гады 1959/60. Калі за ўвесь 1959 год аднатавана 3.712 пазычанняў, дык толькі за тры кварталы 1960 года аднатавана 6.117 пазычанняў. Без вялікай памылкі можна адзначыць, што чытальніцтва роднай літаратуры п а д в о і л а с я! Статыстычныя даныя Ваяводскай бібліятэкі ў Беластоку падаюць, што пераважаючая большасць чытачоў — гэта моладзь. Гэты факт зразумелы, бо старэйшае пакаленне было пазбаўлена магчымасці вучыцца роднай мове ў часы царскага рэжыму і санацыйнай Польшчы.

У апошнія гады звернута асаблівую ўвагу на куплю маладзёжнай літаратуры.

За 1961 год закуплена ў бібліятэкі беларускай літаратуры каля 2.300 экз. Заказ, у асноўным, быў зрэалізаваны ўжо пры канцы лета (канец жніўня і пачатак верасня).

Маючы дакладныя даныя, можна прасачыць

(Працяг на стар. 4)



## ВЫДАТНЫ ВУЧОНЫ беларускага народа

(Да 100-годдзя з дня нараджэння акадэміка Я. Ф. Карскага)

У студзені 1961 года беларускі народ з пачуццём глыбокага павазання адзначае стагоддзе з дня нараджэння заснавальніка беларускага мовазнаўства і беларускай філалогіі, буйнейшага вучонага — акадэміка Яфіма Фёдаравіча Карскага, які прынёс у падарунак беларускаму народу і другім народам славянскай сям'і звыш 800 навуковых прац.

Якім жа агромным і рэдкім талентам трэба ўладаць, якой невычэрпнай творчай энергіяй павінен быць напоўнен даследчык, каб за адно чалавечае жыццё так многа стварыць.

Асабліва вялікі ўклад акадэміка Я. Ф. Карскага ў распрацоўку кардынальных праблем беларусазнаўства. Добра разумеючы, што стваральнікамі гісторыі і культуры ва ўсе часы з'яўляўся народ, Я. Ф. Карскі з захапленнем бярэцца за глыбокае і ўсебаковае вывучэнне матэрыяльнага і духоўнага жыцця беларускага народа. Гэтаму ў значнай ступені спрыялі набытыя ў дзяцінстве веды аб жыцці роднага сацыяльна пакрыўджанага, але духоўна багатага народа.

(Працяг на стар. 2)

## СУСТРЭЧЫ



У часе зімовай сесіі ў памяшканні ГП БГКТ адбылася сустрэча кіраўніцтва Таварыства з беларускімі настаўнікамі — студэнтамі Завочнай настаўніцкай студыі ў Беластоку. У сустрэчы ўдзельнічалі таксама віцэ-дырэктар Настаўніцкай студыі мгр Юзэф Кая і выкладчыкі завочнага аддзелу мгр мгр Ян Радзюкевіч і Мікола Гайдук.

На сустрэчы абмеркавана далейшае пашырэнне супрацоўніцтва Таварыства з настаўнікамі, а таксама справу выкарыстання «Нівы» і «Зоркі» ў працы школы.

На здымку: падчас сустрэчы. Выступае сакратар ГП БГКТ Ул. Юзвюк.

фота Г. Рагазінскі

## ЛЕКАРСКІЯ „ХВАРОБЫ"

(Працяг са стар. 3)

кія лекары, якія думаюць толькі аб сабе, аб сваім дастатку і багацці, якія не чулыя на цярпенне хворых людзей. Вось некалькі фактаў.

У Драгічыне лекар не захацеў аказаць дапамогі цяжка захварэўшаму дзіцяці беднай удавы. У гэтай справе інтэрвеніявала міліцыя.

У Мілейчыцах лекар не аказаў дапамогі для кабеты са зломанай рукой толькі таму, што яна не мела 150 зл. І бедная кабета пяшэчкам пайшла да Цеханоўца.

У Сямяцічах кабета тры дні была ў паліклініцы і на працягу трох дзён не прыняў яе лекар.

Адна з настаўніц зламала нагу і ў Сямяцічах ляжала 7 гадзін без дапамогі.

У Сямяцічах вельмі расхісталася дысцыпліна працы ў некаторых лекараў і апрача таго наглядаюцца абыякавыя адносіны да хворых. Значыць, не выконваюць яны сваіх асноўных абавязкаў. Такіх фактаў і іншых вельмі многа. Многа такіх выпадкаў, што лекары бяруць вельмі высокія сумы за прыём хворага, за лякарствы і ўколы, якія самі купляюць у аптэцы. Вельмі дорага бяруць за напісанне якой - небудзь спраўкі ці пасведчання.

Усё гэта сведчыць аб тым, што некаторыя лекары за моцна «хварэюць на грошы», што думаюць толькі аб сваіх выгадах і багацці і зусім не лічацца з лекарскай этыкай. Імкненне да нажывы прыкрываюць ім вочы на гора людзей, на іх цярпенне. З гэтага вынікае, што над лекарамі, над іх працай няма дастатковай кантролі ўлад аховы здароўя. Нашыя адміністрацыйныя ўлады бываюць надта ж талеранцыйнымі ў адносінах да несумленных лекараў.

Мабыць нашыя медыцынскія акадэміі замала прысвячаюць часу прышчэпліванню будучым лекарам сапраўдных гуманных адносін да хворага. Медыцынскія веды, атрыманыя ў акадэміі, без дастатковай падрыхтоўкі да жыцця ў гушчы мас — гэта яшчэ замала. Неабходна, каб Медыцынскія Акадэміі рыхтавалі не толькі добрых спецыялістаў, але таксама, каб лепш падрыхтоўвалі сваіх навучэнцаў да жыцця ў грамадстве.

**М. ХМЯЛЕЎСКІ**

## КОМАТАЎЦЫ ЎЧОРА І СЁННЯ

Непадалёку ракі Свіслач, па якой прабягае дзяржаўная граніца з Савецкім Саюзам, знаходзіцца вёска Коматаўцы (Беластоцкі пав.). Зямля тут гарыстая, пясчаная. Краявід у нас вельмі прыгожы. Унізе, нейкіх 50 метраў ад вёскі, рака, каля якой размясціліся балота і сенакос. Вышэй за вёскай на прыгорку, хваёвы хмызняк. На канцы Коматаўцаў прыгожая школа, а побач сад. Калі хтось наведваў нашыя аколіцы, дык напэўна прыпамінае сабе вузкія палоскі. Агульнавядомым з'яўляецца, што цяжка гаспадарыць на такой зямлі. Аднак мясцовыя жыхары паспяхова спраўляюцца са сваімі абавязкамі земляроба.

У часы санацыйнай Польшчы ў нашай вёсцы было толькі 5 маняжоў (т. зв. «кератаў»). Зараз іх тут аж 25. Калісь былі тут 2 веялкі, а цяпер каля 20-ці. Людзі ўспамінаюць, што вёска мела ў даваенны час толькі 2 будзільнікі і 2 веласіпеды. Зараз кожны малады хлапец і дзяўчына мае ручны гадзіннік, а будзільнік ёсць у кожнай хаце. Большасць жыхароў вёскі мае веласіпеды. Ёсць тут таксама адзін матацыкл і матаровар. А хто калісь мог марыць аб т. зв. балонах. Зараз у нас каля 20 гумовых вазоў. Амаль у кожнай хаце ёсць радыёкропка, дзякуючы чаму людзі добра арыентуюцца ў падзеях у краіне і ў свеце. Зусім інакш выглядаюць сёння школьныя справы. У санацыйныя часы дзеці вучыліся ў дзвюх наёмных хатах, дзе былі толькі чатыры класы. Цяпер жыхары вёскі маюць школу, пабудаваную яшчэ ў 1940 годзе. Некалькі год таму назад быў тут праведзены грунтоўны рамонт, а побач са школай пасаджаны малады сад. Дзеці здабываюць сямігадовую адукацыю. Яны вывучаюць родную беларускую мову, якая за санацыі была забаронена. Адзначу яшчэ, што ў 1960 г. быў наладжаны вячэрні курс для дарослых. Заняткі на ім праводзяць мясцовыя настаўнікі, якім усе ўдзельнікі выражаюць словы ўдзячнасці.

Вёска Коматаўцы з'яўляецца апошняй мясцовасцю паўночна - ўсходняй часткі Беластоцкага павета, якая не мае электрычнасці. Адным з асноўных пытанняў, хвалюючых мясцовае насельніцтва, была дарога, якая злучае Коматаўцы з Баброўнікамі, а таксама з шашой. Гэта дарога праходзіць праз балацістыя аколіцы і восенню надзвычай цяжка па ёй праехаць і прайсці. Дзякуючы працавітасці жыхароў Коматаўцаў, Баброўнікаў і іншых суседніх вёсак наладжана папсаваную дарогу грамадскім чынам. Такі чын меў месца 5 снежня 1960 года.

Жыхары Коматаўцаў мараць аб тым, каб бліжэй знаходзіліся ГРН і пункт аховы здароўя. Зараз гэтыя ўстановы знаходзяцца ў адлегласці 12 кіламетраў, у вёсцы Зубкі. Ды і наогул ГРН, якой падлягае 14 вёсак, мае вельмі нявыгоднае палажэнне: знаходзіцца не ў цэнтры гэтых вёсак, а на іх канцы.

Нягледзячы на паасобныя непаладкі ў жыцці вёскі Коматаўцы, трэба з упэўненасцю сказаць, што яна ідзе зараз паспяхова па новым шляху, пракладзеным ёй народнай уладай.

**АЛЯКСАНДР ГЕДЗІЧ**
Коматаўцы



**На вечарыне ў святліцы ГП БГКТ у Беластоку.**
фота — **Г. Рагазінскі.**

## ПЛЮЦІЧЫ МАТАРЫЗУЮЦЦА

Ужо зусім звычайнай з'явай з'яўляецца на нашых вёсках матацыкл. У паасобных мясцовасцях наладжваюцца курсы, дзе хлопцы, а нават дзяўчаты вучацца кіраваць маторам. У Плюцічах, Бельскага павета, на працягу 1960/61 гг. былі арганізаваны два такія курсы. Трэба падкрэсліць, што амаль усе члены першага курса набылі матацыклы. Зараз у нашай вёсцы маем звыш 20 матораў.

**Мікалай Назарук**

## КАШТОЎНАЕ ПАЧЫНАННЕ

Камэнда гуфца сакольскіх гарцэраў падняла цікавую ініцыятыву. Гарцэры вырашылі заняцца збіраннем этнаграфічнага матэрыялу, звязанага з жыццём мусульманскага насельніцтва Сакольшчыны, якое пражывае тут каля пяці стагоддзяў. У гэтым цікавым мерапрыемстве будуць ім дапамагаць беластоцкія этнографы.

(п)

нак, розніцай, што тут даследуюцца выключна моўныя з'явы.

Прытрымліваючыся канкрэтных фактаў мовы, Я. Ф. Карскі прыходзіць да вываду аб тым, што беларуская мова з'яўляецца заканамерна склаўшайся сістэмай, якая адрозніваецца сваімі спецыфічнымі асаблівасцямі ад іншых славянскіх моваў. Вучоны лічыць, што беларуская мова ўтварылася ў XIV стагоддзі.

Грунтоўнае веданне жывых народных беларускіх гаворак дало Я. Ф. Карскаму магчымасць цэлы дыялектны масіў Беларусі падзяліць на дзве асноўныя групы т. зв. — паўночна-ўсходнія і паўднёва - заходнія гаворкі. У асноўным, гэтая класіфікацыя не страціла свайго значэння і для сучаснай беларускай дыялекталогіі.

Аднак не толькі абгрунтаваным фактычным матэрыялам і тэарэтычнымі абагульненнямі вартасны працы Я. Ф. Карскага. Стоячы на ўзроўні задач лінгвістычнай навукі свайго часу, ён правільна акрэсліваў гэтае асноўнае і важнае, што павінна быць зроблена ў галіне беларускага мовазнаўства. У прыватнасці, заслугоўвае на ўвагу яго ідэя аб стварэнні поўнага слоўнара жывой беларускай мовы, а таксама слоўнара старой беларускай мовы.

У гэтыя ўрачыстыя, юбілейныя дні з выпадку стагоддзя нараджэння Я. Ф. Карскага нам прыемна адзначыць, што яго лексікаграфічныя планы пераўтвараюцца ў жыццё калектывамі сучасных беларускіх мовазнаўцаў, працуючых над стварэннем серыі рэгіянальных беларускіх слоўнікаў, а таксама над гістарычнымі і этымалагічнымі слоўнікамі беларускай мовы.

Выхад у свет трох лінгвістычных выданняў «Беларусаў» умацаваў аўтарытэт Я. Ф. Карскага ў навуцы, зрабіў яго імя вядомым у вучоных колах славянскага свету. У знак прызнання заслуг Яфіма Фёдаравіча Карскага Гістарычна - філалагічнае таварыства пры Наварасійскім універсітэце і Таварыства любіцеляў рускай славеснасці выбралі яго сваім ганаровым членам, а Расійская Акадэмія навук па прадстаўленню акадэмікаў Шахматава,Ператца, Сабалеўскага і Катлярэўскага ў 1916 годзе выбрала Я. Ф. Карскага ардынарным акадэмікам.

З таго часу Я. Ф. Карскі назаўсёды пераязджае ў Петраград. Тут ён чытае лекцыю ў Петраградскім універсітэце.

Пасля Вялікай Кастрычніцкай Сацыялістычнай рэвалюцыі вучоны праводзіць вялікую навукова - арганізацыйную работу.

Ён — член Прэзідыума Акадэміі навук, дырэктар музея антрапалогіі і этнаграфіі АН СССР, старшыня Слоўнікавай камісіі і Камісіі па рускай мове.

У студзені 1929 года Чэшская Акадэмія навук выбрала Я. Ф. Карскага сваім правадзейным членам, засведчыўшы тым самым прызнанне заслуг беларускага вучонага ў славянскіх землях.

Завяршыў сваё шматтомнае выданне Я. Ф. Карскі трыма літаратуразнаўчымі кнігамі, прычым у першых дзвюх ён грунтоўна разгледзеў народную паэзію беларусаў і старую заходнярускую пісьменнасць, у трэцяй жа даў даволі падрабязны агляд беларускай мастацкай літаратуры новага часу. Каштоўнасць гэтых кніг — у іх фактычным, па дакладнасці апрацоўкі, гаворачы словамі акадэміка Б. М. Ляпунова, «амаль бяспрыкладным» матэрыяле.

Аднак і тады, калі ўсе 7 кніг «Беларусаў» былі выданы, акадэмік Я. Ф. Карскі працягваў работу над іх удасканальваннем і папаўненнем новымі матэрыяламі. Трэба тут адначасова адзначыць, што яго не пакідала думка аб стварэнні IV тома, або восьмай кнігі «Беларусаў» у якой дзеля папаўнення характарыстыкі будовы беларускай мовы меркавалася даць слоўнік старой заходнярускай мовы і слоўнік сучаснай жывой мовы.

У апошнія гады жыцця Я. Ф. Карскі неаднаразова вяртаўся да старой і новай беларускай мовы. Аб гэтым сведчаць такія яго працы, як «Культурные завоевания русского языка в старину на западной окраине его области», «К истории белорусского языка в XVII столетии», «Червенский говор» і другія. Характэрна, што ў гэтых матэрыялах ставіцца ўжо задача не столькі атрымання новых фактычных даных аб паасобных з'явах беларускай мовы, колькі растлумачэння ўплыву апошняй на літоўскую, латышскую, татарскую і іншыя мовы. Сур'ёзнае месца ў навуковай дзейнасці акадэміка Я. Ф. Карскага займала і славянская праблематыка. Цікавасць да гэтага пытання ўзрасла асабліва пасля паездак вучонага ў Чэхаславакію, Югаславію і другія славянскія краіны. З цыкла прац гэтага кірунку перш за ўсё трэба адзначыць «Славянскую кирилловскую палеографию», выданую ў Ленінградзе ў 1928 годзе (гэтая праца і да сённяшняга дня служыць незаменным дапаможнікам для славістаў), «Русскую диалектологию» 1924 года, якую з поўнымі падставамі можна лічыць усходнеславянскай дыялекталогіяй. Асаблівую ўвагу ў апошнія гады свайго жыцця Я. Ф. Карскі ўдзяляў паралельнаму вывучэнню лексікі славянскіх моваў, лічачы, што лексікальныя даныя могуць з'явіцца падставай для ўстанаўлення моўных узаемаадносін славянскіх народаў і для вырашэння пытання аб рассяленні славян у старажытнасці.

Творчае аблічча выдатнага вучонага было б асветлена няпоўна, калі б не была адзначана тая велізарная тэксталагічная работа, якая праведзена Я. Ф. Карскім у сувязі з выданнем Лаўрэнцьеўскага летапісу і «Рускай праўды» па старажытнейшаму спіску, а таксама яго шматгадовая праца па рэдагаванню папулярнага ў вучоных колах часопіса «Русский филологический вестник» і «Известий Отделения русского языка и словестности».

У межах невялікага артыкула, зразумела, немагчыма ні пералічыць усёй велізарнай творчай спадчыны Яфіма Фёдаравіча Карскага, ні тым больш раскрыць яе навуковае значэнне. Яна яшчэ доўгія гады будзе прыцягваць да сябе ўвагу вучоных — мовазнаўцаў і будзе для іх багацейшай крыніцай звестак і выдатным прыкладам служэння навуцы.

М. СУДНІК
дырэктар Інстытута мовазнаўства
імя Якуба Коласа АН БССР.

# ПРЫРУЧАНЫЯ МАЛАНКІ

Як толькі стала вядома, што ў навальніцах няма нічога надпрыроднага, пачаліся пошукі розных спосабаў барацьбы з маланкай. Навальнічныя хмары абстрэльваліся артылерыйскімі снарадамі. На змеях з тканіны падымалі ў воблакі дынаміт і ўзрывалі яго там. Аднак усе гэтыя меры не давалі жаданага выніку. Меркавалася таксама нацягваць на зямлі металічныя сеткі з вострымі шыпамі, з якіх электрычнасць сцякала б і разраджала хмары. Але і гэтая прапанова не апраўдала сябе.

Цяпер усе прызналі, што барацьба супраць праяў маланкі не дае карысці. Не знішчаць трэба маланку, а пакарыць яе. Можна і трэба прымусіць маланку пайсці ў зямлю, не прычыніўшы ніякіх разбурэнняў.

**Чаму маланка звілістая?** У народзе раней гаварылі, што маланка шукае скарбы. Фактычна ж, зараджаючыся недзе ў навальнічнай хмары, яна шукае найбольш лёгкага шляху да зямлі. Часам гэты шлях супадзе з найкарацейшай адлегласцю. Таму маланка ўдарае ў высокія прадметы. Аднак здараецца, што абходны шлях больш лёгкі, чым прамы.

Улічваючы гэтыя ўласцівасці маланкі, можна прадухіліць пашкоджанне розных аб'ектаў з дапамогай маланкаадводаў. Маланкаадвод павінен быць дастаткова высокім і добра заземленым. З яго завостранага канца пры набліжэнні навальнічнай хмары збягаюць зарады, якія іянізуюць паветра і служаць своеасаблівай «прынадай» для маланкі. Каб засцерагчы лініі электраперадач, цяпер распрацавана многа розных прыстасаванняў. Сучасная ахова ад маланкі настолькі надзейна распрацавана, што звышдалёкія лініі электраперадач Куйбышаў—Масква і Сталінград — Масква могуць бесперабойна дзейнічаць нават пры прамым пападанні маланкі.

### ПАКОРНЫ СЛУЖКА

Як ужо адзначалася, маланка валодае вялікай разбуральнай сілай. У сувязі з гэтым узнікае пытанне, ці нельга прымусіць яе выконваць карысную работу для чалавека. Іншымі словамі, ці нельга пабудаваць такую электрастанцыю, якая здабывала б электрычнасць з навальнічных хмар. Вучоныя падлічылі і прыйшлі да вываду, што будаваць такую электрастанцыю эканамічна нявыгадна. Маланка, валодаючы вялікай магутнасцю, дзейнічае на працягу тысячных долей секунды. Так агульны запас энергіі ў яе параўнаўча невялікі. Адна станцыя з дапамогай высокіх антэн магла б злавіць за год каля 20—30 маланак. Электраэнергіі, здабытай такім шляхам, хапіла б толькі на адну 60-ватную лямпачку.

Але калі навальнічныя маланкі лавіць практычна няма сэнсу, то штучная маланка даўно ўжо стала добрым памочнікам у рабоце і навуковых даследаваннях. Цяпер у лабараторных умовах атрымліваюць маланкі даўжынёй у 15 метраў і больш. Яны выкарыстоўваюцца для розных мэт і, у прыватнасці, для вывучэння засцярогі ад навальніцы. Напрыклад перш чым будаваць высачэзны будынак Маскоўскага ўніверсітэта, канструктары і інжынеры павінны былі распрацаваць надзейную сістэму аховы ад udaraў маланкі. Для гэтай мэты ў лабараторыі выпрабоўваўся макет універсітэта і прылеглая да яго мясцовасць. Некалькі разоў у дзень над макетам бушавалі навальніцы. Штучныя маланкі ўдаралі ў яго карпусы. Надзейнасць кожнай новай сістэмы можна было праверыць на працягу некалькіх гадзін.

Цяжка пералічыць усе выпадкі выкарыстання іскры. У наш час электрычнасць пранікла ва ўсе галіны прамысловасці і тэхнікі. З кожным годам яна выкарыстоўваецца ўсё больш і больш.



**Ягелёнскія аррасы нарэшце вяртаюцца на радзіму**
**На здымку: Аррас з серыі аб звярах.**

# УСЯКАЯ ЎСЯЧЫНА

### ДЗІЎНАЯ РАСЛІНА



Мы прызвычаіліся называць бамбук дрэвам. Але на самай справе гэта — трава, блізкая да нашага пырніку і цімафееўкі.

Бамбук расце на дзіва хутка: ад 6 да 34 сантыметраў за суткі. Ён дасягае ў вышыню да 50 метраў.

Паколькі бамбук вельмі цвёрды, з яго вырабляюць вадаправодныя трубы, плыты, лодкі, будуюць дамы і масты, з маладых парасткаў робяць парканы, парусы, кошыкі, парасоны, цыноўкі, музычныя інструменты, пасуду, сіты. З валокнаў бамбуку вырабляецца папера.

### КОЛЬКІ МОЖА ГАЛАДАЦЬ ЧАРАПАХА?

Гэта было на Амуры. Злоўленую чарапаху для практыкі пасадзілі ў невялікую пячору на беразе ракі і завалілі каменнем. Праз тры месяцы пячору адкрылі, чарапаха была жывая. Яна варушыла галавой, міргала зялёнымі вачыма, а потым, выпусціўшы шырокія нязграбныя лапы, папаўзла да ракі.

Асобныя віды марскіх чарапах могуць не есці на працягу шасці год. У грэчаскай чарапахі, калі ёй адрэзаць галаву, сэрца працягвае біцца 14 дзён, а сама адсечаная галава кусаецца яшчэ паўгадзіны.

Ёсць чарапахі велічынёй з карабок ад запалак, а ёсць гіганты вагою больш тоны.



### ПРАЖЭРЛІВЫ КАРШУН

Нядаўна жыхар пасёлка аднаго з віназаводаў у СССР Фёдар Жукоўскі вяртаўся з лесу. Як і заўсёды, яго сабака то забягаў уперад, то вяртаўся назад. Раптам ён з візгам выскачыў з прыдарожнага куста і зноў кінуўся туды. Гаспадар накіраваўся ў кусты і ўбачыў, што паміж сабакам і велізарнай птушкай ішла бойка. У гэты паядынак умяшаўся і Жукоўскі. Птушка была злоўлена.

На месцы пабоішча былі выяўлены рэшткі гуся і зайца. Птушкай аказаўся каршун незвычайнай велічыні. Размах крылаў — звыш двух метраў, а кіпцюры даўжынёй 3—4 сантыметры. Мяркуюць, што каршун вельмі згаладаўся і адразу з'еў гуся і зайца. Ацяжалелы драпежнік не змог падняцца ў паветра.

### ЦІКАВА ВЕДАЦЬ

Малако сіняга кіта мае ў сабе звыш 50 прац. тлушчу, паўночнага аленя — 18 прац., а каровы — у сярэднім 4 прац.

*

Дзейнасць сардэчнасасудзістай сістэмы залежыць ад велічыні жывёліны. Сэрца слана, напрыклад, робіць 46 удараў за мінуту, кошкі — 240, сініцы — 798, а маленькай птушкі маскоўкі — 1.200.

*

Самую большую колькасць зубоў мае садовы смоўж, які жыве ў Амерыцы. Калі ён «прагрызае» падземны ход, то ў яго працуе 14.175 зубоў.

# МОДА

Усім маладым жанчынам, запрошаным на вяселле, раім модную і практычную сукенку з жакецікам. Гэтыя дзве мадэлі «Польскай Моды» надаюцца на ўсялякія ўрачыстасці. Матэрыял купляем паводле густу і «кішэні». Можа быць рыпс, атлас, сатын альбо брокат. Пакуль яшчэ не вельмі горача — гуляеце ў жакеціку, пасля без жакеціка. Сукенкі вузкія, простага крою. Жакет першы, зашпілены на адзін прыгожы гузік, зусім просты; жакет другі, з прыгожымі гузікамі, — лёгка дапасаваны.

Такі камплект добра выглядае на шчуплай і поўнай, маладой і старэйшай жанчыне.

Без жакеціка сукенкі таксама вельмі прыемна выглядаюць.






Два гады таму назад я закончыў Варшаўскі Ўніверсітэт і зараз працую ў Беластоку. У Беластоку жывуць мае бацькі і многа сваякоў. Усе яны кажуць, што я павінен ажаніцца з дзяўчынай таксама з вышэйшай адукацыяй. Адзін з сваякоў кажа, што пазнаёміць мяне з аптэкаркай, другі — з лекарам, трэці — з настаўніцай і г.д. А апошнім часам бацькі настойліва прымушаюць, каб ажаніўся з дзяўчынай, якая закончыла інжынерскую школу. Гэта наша суседка. Ужо ад даўжэйшага часу ствараюць такія ўмовы, што неаднойчы мы сустракаліся. Гэта дзяўчына не брыдкая і даволі прыемная. Відаць, што я ёй падабаюся, што яна нават жадала б выйсці замуж за мяне.

Але сэрцу не загадаеш. Мне падабаецца іншая. Яна не толькі не мае вышэйшай школы, але нават не закончыла сярэдняй. Працуе ў Фастах ткачыхай. Я часта з ёю сустракаюся. Але аб гэтым не ведаюць ані бацькі ані сваякі. Проста не ведаю што рабіць, ці паслухаць бацькоў, бо яны мне не жадаюць дрэннага, ці паслухаць свайго сэрца.

**Алесь**
Беласток

**Раім ажаніцца з тою дзяўчынаю, якую вы кахаеце, а не з тою, якая падабаецца бацькам. Варта таксама аб сваіх намерах падзяліцца з бацькамі і пераканаць іх у тым, што сямейнае шчасце ёсць там, дзе сапраўдная, глыбокая любоў.**

**СЭРЦАЙКА**

Я Руткоўска

# САПРАЎДНЫ МУЖЧЫНА

— Сапраўдны мужчына не бывае зайздросны, — закрычалі прысутныя, выбухаючы смехам.

— Мала! — дадала гаспадыня. — У маім доме сапраўдны мужчына абавязан быць дыскрэтны. Сапраўдны мужчына не лезе ў чужыя таямніцы!

Прайшла гадзіна і Зузя паявілася ў дзвярах у змятай спадніцы і без блузкі.

— Што ты там рабіла столькі часу? — запытаў Каштэлянскі.

— О, які цікавы! Сапраўдны мужчына не бывае праз меру цікавы, — адказала Зузя.

Каштэлянскі адсунуў кілішак.

— Не магу больш!

— Сапраўдны мужчына не адмаўляе, — сказаў гаспадар.

— Сапраўдны мужчына п'е раўнамерна, — запішчала Зузя, да якой Каштэлянскі калі-некалі адносіўся як да нарачона, а часам нават яшчэ і лепш.

Каштэлянскі выпіў і захістаўся на крэсле. Лапаючы раўнавагу, ён разбіў крыштальную вазу.

— Ну, ведаеце! — пратэставала гаспадыня.

Каштэлянскі махчуў рукой

— Сапраўдны мужчына не прыкладае ўвагі да дробязяў, — сказаў ён, ледзь выгаварваючы словы.

Зузя глянула на яго з дакорам.

— Сапраўдны мужчына не хуліганіць за сталом, — сказала яна і выйшла ў другі пакой. — Падвязка ў мяне лопнула, — выясніла яна ў дзвярах. — Мо' нехта з мужчын мае аграфку?

Аграфку меў пан Казімір. Выйшлі і замкнулі за сабой дзверы. Прайшло паўгадзіны, і Каштэлянскі пачаў непакоіцца.

— Трэба пабачыць, што там дзеецца, — паўтараў ён упарта. — Аграфка, мабыць, дзяржаўная.

— Вы яшчэ верыце ў тую аграфку, пане Каштэлянскі?! — закрычаў Лёлё. — Сапраўдны мужчына не можа быць такі наіўны!

— Сапраўды, — згадзіўся Каштэлянскі, і, спатыкаючыся, накіраваўся да замкнутых дзвярэй.

— Добра, не буду цікавы, але ты не маеш блузкі, — сказаў не зусім на тэму Каштэлянскі.

— Блузка дробязь! Сапраўдны мужчына не звяртае ўвагі на дробязі, — выяснілі прысутныя Каштэлянскаму.

— Ну, тады пайшлі пагуляць.

Нават невядома хто падаў гэтую здаровую думку, але ўсе згодна выйшлі. Спяваючы, яны дружна ішлі ў напрамку ракі. Затрымаліся на мосце.

— Скокні, каханы, да ракі! Для мяне гэта! — папрасіла Зузя Каштэлянскага.

Стаяў у нерашучасці.

— Ну, скачыце! Сапраўдны мужчына не адмаўляе жанчыне, — заахвочвалі яго прысутныя.

Скочыў. Жанчыны прылажылі да вачэй хусцінкі. Мужчыны знялі капялюшы. Усе зразумелі, што адышоў, мабыць, апошні ў Польшчы сапраўдны мужчына.

Аднак пасля некалькі мінут паявіўся зноў. Яго прытрымлівалі два міліцыянеры. Даўся злапаць як шчанюк. Прысутныя пагардліва ад яго адвярнуліся. Сапраўдны мужчына так не паступае.

Пераклад
В. БОНДАРА






Пяць гадоў кумаў сваяк не паказваў носа ў вёсцы, а сёння, вось, з'явіўся. Кум чалавек бывалы і госця прыняў з адкрытымі рукамі. Чым была хата багата, на талеркі выложыў. Знайшлася і бутэлька.

Сваяк з прагнасцю паглядзеў на застаўлены стол, наладаваў дабром сваю талерку і за работу прыняўся. Працуе сваяк сківіцамі і маўчыць. Нельга ж гаварыць, калі рот запханы. Здзіўляцца гэтаму не трэба. У горадзе з ежай зусім інакш, чым на вёсцы. У магазінах ёсць усяго поўна, але ў кішэнях не заўсёды звоняць «касцюшкі» ці «капернікі». А ў вёсцы, нябось, кладоўкі заўсёды напоўнены.

За сталом кум неаднойчы да сваяка звяртаўся, але той толькі мычаў пры гусяцінцы ды горла раз за разам паласкаў.

Калі ў трэцяй бутэльцы дно паказалася, у сваяка язык развязаўся, быццам у павятовага актывіста.

— Вось, — кажа, — сяджу я, куме, з табою, ды бачу як пры нашай гарадской дапамозе грамадзяне вясковыя жывуць у дастатку.

Кум за словам у кішэнь не лезе. Ён і адказвае сваяку: — Нічога сабе жывем і хлеб жуем, але вось памагатараў з горада нейк не прыкмячаем.

— Эх, галава садовая. А гэтыя талеркі, што на стале стаяць адкуль узяліся, як не з горада? — пытае сваяк.

— Вось дзіва, талеркі! Мы, бывала, і з ганчарных місак елі. Важнае, каб было што ў гэтыя міскі накласць, — адказваўся кум.

— Эх, ты, масава несвядомы чалавек, не бачыш, што вёдры, каструлі і ўсё іншае з горада выводзіцца. На сенакос ідзеш з касою, а яна ж таксама ў горадзе зроблена.

— Дык па-твойму без горада нам ніяк нельга? — запытаў кум.

— Зразумела! — ажывіўся сваяк. — Без горада і рабочага класа жыхарам вёсак — каюк.

— А ты ж сам з вёскі. Чаго тады за гарадскіх горла дзярэш? Калі б табе вёска не дала хлеба з маслам ды бульбы з мясам, ніякіх ты каструль з вядзёркамі не нарабіў бы, — закончыў кум.

— Вось рыбіна галава. Дык без сельгасмашын і хлеба не атрымаеш. А машын жа не пасееш. Непасеянымі ў вёсцы растуць толькі галовы саломай набітыя, — закончыў сваяк.

Што адказаў на гэта кум — не важна. Ды і спрэчкі такія, людзі мілыя, зусім пустыя. Няма чаго гораду перад вёскай нос задзіраць і вёсцы перад горадам хадзіць козырам. Адна ў нас дарога, па якой супольна павінны ісці. І спрэчку гэтую кум са сваяком не ад сябе вялі. Гарэлка за іх гаварыла. А вядома, людзі добрыя, што калі гарэлка языком варочае, то ні ў вёсцы ні ў горадзе ніхто нічога разумнага не скажа.

Дзядзька Лявон



Самаабслугоўванне

### АДКАЗАЎ

Доктар пытаецца ў хворага:

—Ці вы сёння елі суп з апетытам?

— Не, з макаронам, — адказаў хворы.

Анна Нікіцюк
Бельск



БЕЗ СЛОЎ.

### ВУСЫ

— Тата, чаму ў дзяўчат няма вусаў?

— Каб былі вусы ў дзяўчат, то не былі б у хлопцаў.

Валя Юрчук
Койлы



### ЛЯ ВОГНІШЧА

— Ваня, чаго губы надуў?
— Сарочку прапаліў.
— Дык можна залатаць!
— Іголкі няма.
— А вялікая дзірка?
— Адзін каўнер толькі астаўся.

Валодзя Баўтручук
Плюцічы

### ЯКАЯ МАЦНЕЙШАЯ

Сын узяў дзве бутэлькі і, падышоўшы да бацькі, пытае:

— Угадай, татка, якая бутэлька мацнейшая?

— От, дзіва! — сказаў бацька. — Вазьмі размахніся і ўдар бутэльку аб бутэльку. Якая не паб'ецца тая і мацнейшая.

Сцёпа Сідарук
Крывая




— ХТО НАСТУПНЫ!

### ТОЛЬКІ ЁН

Ваня, прышоўшы са школы дамоў, сказаў:

— Мама, сёння ніхто не адказаў на пытанне настаўніка, апрача мяне.

— А якое гэта было пытанне? — пытае зацікаўлена маці.

— Хто не зрабіў дамовай працы? — адказаў Ваня.

Юзэф Чапля
Гайнаўка

### У СУДЗЕ

Адзін чалавек краў сена. Убачыўшы гэта гаспадар, падаў злодзея ў суд, а ў сведкі ўзяў хлопчыка, які побач пасвіў каровы.

— Вы кралі сена? — пытае суддзя злодзея.

— Не, — адказвае той, — краў хлопчык.

— Не звяртайце ўвагі на малога, — умяшаўся пракурор.

Абражаны хлопчык звяртаецца да пракурора:

— Вы, дзядзьку, лепш маўчалі б, бо нічога не бачылі.

Шура Семенюк
Рэпіска



Першыя крокі слаламіста

## ДУМКІ КУМКІ

ЧУТКІ ХОДЗЯЦЬ У НАРОДЗЕ
ХУТКА «НІВЫ» ПЯЦІГОДДЗЕ